Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 7 (61) Нядзеля, 8-га Лютага 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## На тым баку.

Як ведама, ў *Савецкай* Беларусі бальшавікі даюць беларусам уладу толькі ў галіне нацыянальнае культуры і прасьветы, але само сабою разумеецца, наколькі культура і прасьвета гэтая магчыма пад бальшавіцкім кутом гледжаньня.

Ці магчыма вольнае культурна-нацыянальнае разьвіцьцё пад бальшавіцкаю ўладаю, на гэтае пытаньне адказвае сам афіцыёз Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту *Савецкай* Беларусі газэта „Савецкая Беларусь" артыкулам „Сумныя лічбы", выпіскі з якога знаходзім на апошняй старонцы тутэйшае „Беларускае Долі".

Артыкул „Сумныя лічбы" быў зьмешчаны ў менскім афіцыёзе 19-га сьнежня мінулага году і, перадрукоўваючы яго, „Беларуская Доля" констатуе „*вялікі застой у беларускім культурна-нацыянальным жыцьці*" на тым баку рыскае граніцы.

Ня гледзячы на дэкрэты аб пераходзе *савецкіх* канцэлярыяў на беларускую мову, на розныя рэарганізацыі Інбелкульту (Інстытут Беларускае Культуры), беларусізацыя краю над традыцыйным прэсам Маскоўшчыны, як відаць са словаў „Сав. Белар." йдзе так туга, што выклікае ў бальшавіцка-беларускіх кіраўнікоў „Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі Беларусі" адзін толькі сум. Для нас тутака паўстае яснае пытаньне, ці ня трымаюць маскоўскія цэнтралістыя ў Менску ўсе справы беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня, ўсе справы прасьветы на роднай мове народу, ў аранжэрэйным, так сказаць, палажэньні?

Тое, што (як прызнаецца бальшавіцкі афіцыёз) у Менску з провінцыяй расходзіцца гэтага афіцыёзу толькі 562 + 154 экзэмпляры, ў Віцебску з ваколіцай — 89, Бабруйску—113, Воршы—89, Барысаве—80, Магілёве—57, Леплі —1 экзэмпляр і г. д.—нас ані ня дзівіць, бо апрача духу маскоўскага цэнтралізму, якім хочуць гэта вытлумачыць менскія беларусы, відаць, падобная *казённая* прэса ня можа мець ніякай сярод беларускага сялянства популярнасьці. А як адносіцца сялянства да радавае ўлады ўва ўсім СССР відаць з прызнаньняў галоўных бальшавіцкіх дыктатараў Сталіна і Каменева.

Калі селькоры (корэспондэнты ў вёсках) сялянствам навет забіваюцца, калі яно ненавідзіць накіненую яму чырвонаармейскім штыхом уладу, дык як-жа яно можа палюбіць і чытаць афіцыяльную газэту гэтае ўлады?

Добрая *беларуская* дзяржава, калі яна ня можа знайсьці спосабу да пераходу сваіх вурадніка̃ў на беларускую мову ў няздічаных бальшавіцкіх канцэлярыях! Мусі ўлада ў гэтай дзяржаве ў руках усяўладных маскалёў, калі канцэлярыі спакойна пішуць ну, так сабе, падаўнейшаму? Мусі беларусы-камісары зьяўляюцца чыстае вады праформаю?

Пытаньняў, падобных да гэтых можна паставіць безь ліку шмат і на кожнае з іх можна знайсьці адзін просты адказ: бальшавікі-цэнтралістыя толькі спэкулююць на шыльдзе „Беларускай Рэспублікі", а нацыянальны зьмест яе для іх—простая пагроза. Непопулярнасьць іхняга афіцыёзу ў беларускіх сялянскіх масах вынікае з таго, што сама ўлада іхняя непопулярна ў беларускім аграрным краі.

Ніякія меры ГПУ ня могуць стварыць „дыктатуры пролетарыяту" там, дзе гэты пролетарыят толькі ў завязі. І дарэмна бальшавікі думаюць, што давёўшы беларускага цёмнага селяніна да больш як пролетарскае галіты, можна ў гэтым селяніне выклікаць пролетарскую сьвядомасьць шляхам лекцыяў аб жыцьці і дзейнасьці Леніна, ці друкаваньнем пабеларуску яго тэорэтычных твораў аб камунізьме.

Ніякімі паліцэйскімі мерамі камунізму ўвясьці нельга, а дзеля гэтага паўстае небясьпека поўнае рэакцыі сярод беларускага сялянства Усходу, як проці самога камунізму, так і проці ня толькі тае штучна-пролетарскае культуры, якую бальшавікі прышчапляюць нашаму народу там шляхам роднае мовы, але і проці свае роднае культуры наагул. Гэтага прыходзіцца баяцца.

Тут у Заходняй Беларусі селянін цягнецца да чытаньня свае нацыянальнае газэты, дамагаецца, як можа, свае роднае школы і гэта можа сьведчыць, што тут ён выкуе і свае болей трывалыя культурныя каштоўнасьці, чымся бальшавіцкі нявольнік на тым баку рыскае сьмяротнае мяжы.

## Палітычны агляд.

Прызнаньне радавага ўраду вялікімі эўропэйскімі дзяржавамі, затым Кітаем і Японіяй значна змацняе міжнароднае палітычнае палажэньне СССР, які зьяўляецца сур'ёзнаю велічынёю ў ваенным сэнсе. Сваім лікам чырвоная армія цяпер самая найбольшая ў сьвеце. Армія гэта досіць добра азброена ўсімі сучаснымі тэхнічнымі спосабамі. Балтыцкі флёт СССР, ня гледзячы на ўсю сваю запушчанасьць, усё такі зьяўляецца найбольшым і пануючым у Балтыцкім моры. У гэты самы час ідуць перагаворы паміж Францыяй і СССР аб перадачы апошняму Чорнаморскага ваеннага флёту, які быў выведзены Врангелем пасьля яго паражэньня ў Крыме зімою 1920 г. спачатку ў турэцкія воды, а затым у Францыю. Прынцыпіяльна гэтае пытаньне вырашана ў позытыўным сэнсе пасьля прызнаньня радавага ўраду францускім урадам Эрыё. Цяпер паўстаюць толькі дыплёматычныя труднасьці ў зьвязку з пытаньнем аб праходзе гэтага флёту церaз Дарданельскую пратоку. Турцыя, Баўгарыя і Румынія заявілі протэст проці пропуску яго ў Чорнае мора, дзеля таго, што гэтым бальшавікі набылі-б поўнае панаваньне ў Чорным моры і зьяўляліся-б сур'ёзнай небясьпекай для дзяржаваў, суседніх з гэтым морам у выпадку ваеннага конфлікту, падобна да таго, як радавы балтыцкі флёт зьяўляецца ваеннаю пагрозаю для Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літвы і Польшчы ў Балтыцкім моры. Дзеля гэтага зусім зразумелы той шум і трывога, якая ахапіла суседнія з СССР дзяржавы пры пытаньні аб перадачы бальшавіком Чорнаморскага флёту і ад заключэньня імі паразуменьня з Японіяй і Кітаем.

Мала таго, што вялізарная тэрыгорыя б. Расеі перастала быць рынкам для прадуктаў эўропэйскай і амэрыканскай прамысловасьці, а бальшавікі сваімі ўдачамі на Далёкім Усходзе імкнуцца да зачыненьня і ўсіх азіяцкіх рынкаў для эўропэйскіх і амэрыканскіх тавараў. А дзеля таго, што й рэшта ўсіх колёніяў эўропэйскіх дзяржаваў у Азіі, Афрыцы і Аўстраліі блізу што вызвалілася за час вайны з-пад эканамічнай залежнасьці ад Эўропы й Амэрыкі, дык для апошніх стварэцца ў высокай ступені трудная сытуацыя. Амэрыка і Англія, як-бы там ні было, павінны вывозіць свае тавары за граніцу, а, з прычыны зачыненьня радавага і скарочаньня азіяцкіх, аўстралійскіх і афрыканскіх рынкаў збыту, ўся маса англа-амэрыканскіх тавараў кінута будзе на эўропэйскі рынак. У Эўропе пачнецца страшэнная конкурэнцыя, якой ня ведае гісторыя. Удачу ў гэтай конкурэнцыі будзе мець той, чые тавары будуць лепшымі й таньнейшымі, г. знач. тыя дзяржавы, ў якіх вышэй стаіць прамысловасьць, проста кажучы: Амэрыка, Англія і Нямеччына. А прамысловасьць рэшты, больш слабых і адсталых у тэхнічным сэнсе дзяржаваў, будзе памалу заміраць. Гэта завострыць страшэнна тыя, якія ўжо істнуюць, эканамічныя крызысы ў больш дробных эўропэйскіх дзяржавах, у тым ліку і ў нас у Польшчы.

Сам сабою напрашваецца вывад, што палепшаньня палітычнага і эканамічнага сусьветнага палажэньня можна чакаць толькі пасьля ўпадку бальшавікоў. Што яны моцныя — гэта так толькі здаецца. Справа ў тым, што ўлада, якая апіраецца толькі на штыхі, ніколі ня можа трымацца гэтым спосабам без канца. Царская Расея да рэвалюцыі апіралася на 20 мільёнаў штыхоў і правалілася. Нямецкая імператарская ўлада таксама ўпала не падчас найбольшае небясьпекі звонку, а якраз у момэнт найбольшае ўнутранае магутнасьці, калі ў сусьветнай вайне, дзякуючы бальшавіцкаму перавароту, ўсходні фронт перастаў для немцаў істнаваць.

Найбольшую небясьпеку для бальшавіцкае ўлады суляць сяляне,

якіх не ўдалося перамагчы ніякімі спосабамі — ні абяцанкамі, ні пагрозамі. Сялянства за час рэвалюцыі моцна паднялося ў палітычнай сьвядомасьці і найбольш выйграла ў сэнсе эканамічным. Аб гэтай небясьпецы з боку сялянства нядаўна гаварылі Каменеў і Сталін — гэтыя два дыктатары з усясільнага цяпер, пасьля адстаўкі Троцкага, «трыумвірату». Справа ў тым, што сяляне байкатуюць выбары ў рады, паказваючы гэтым, што яны не падтрымліваюць радавае ўлады. Дзеля гэтага радавымі ўладамі адменены зробленыя нядаўна выбары толькі арганізатарамі-камуністымі, і выдана асобная інструкцыя ўсім ніжэйшым радавым органам, якою яны павінны кіравацца падчас новых выбараў. Аб гэтым пытаньні Каменеў у сваёй прамове заявіў:— Трэба сапраўды зарубіць сабе на носе: або мы, ажыўляючы вёску эканамічна, ў той самы час афармляем яе й палітычна ў нашым сэнсе, або гэтае эканамічнае ажыўленьне й палітычная актыўнасьць будзе выкарыстана процi нас. Ня трэба задаваляцца тым, што ў мяне ў радзе 100% камуністых або тым, што ў валасным выканаўчым камітэце 100% камуністых, а наадварот — трэба йсьці па тэй лініі, па якой пайшоў Цэнтральны Камітэт, калі прызнаў урачыстым актам неабходнасьць адмяніць рад выбараў у сельскіх мясцовасьцях, дзе аказалася, што гэта ня выбары, а формены зьдзек над сялянамі. Нельга селяніна танным паркалём карміць і ў той-жа час казаць: ты—гаспадар, ты—саюзьнік, у нас з табою дружба,—ды рабіць выбары з удзелам 10% усіх выбаршчыкаў, выбары, якія ў рэзультаце ўсяго зводзяцца да назначэньня».

Але яшчэ больш шчыра заявіў аб палажэньні ў СССР Сталін. Ен блізу што ня крыецца з тым, што радавая ўлада стаіць на параходні, якая ў які хаця момэнт можа паляцець у паветра. — Уся бяда, таварышы, — казаў ён, — у тым, што шмат хто з нашых таварышоў ня хоча зразумець усяе вагі сялянскага пытаньня. Я думаю, таварышы, што з усіх небясьпекаў, якія стаяць перад намі, гэта самая сур'ёзная небясьпека. Адно з двух: альбо нашыя таварышы на мясцох зразумеюць усю сур'ёзнасьць пытаньня аб сялянстве і тады яны сапраўды вазьмуцца за справу ўцягненьня сялян у нашу будаўнічую працу, альбо таварышы гэтага не зразумеюць — тады справа можа скончыцца правалам радавае ўлады...

Далей, кажучы што ня трэба баяцца крытыкі, Сталін, паміж інш., заяўляе: альбо мы ўсёю партыяю дамо беспартыйным рабочым і сялянам крытыкаваць сябе, альбо нас пачнуць крытыкаваць шляхам паўстаньняў. Грузінскае паўстаньне— гэта крытыка. Тамбоўскае паўстаньне таксама было крытыкай. Паўстаньне ў Кранштадце — чым гэта ня крытыка?

Гэта так гавораць аб моцы радавае ўлады галоўныя яе насіцелі ў момэнт, калі за граніцай думаюць аб магутнасьці ваеннае сілы СССР. Ці ня волат на гліняных нагах уся гэтая ўлада?!

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

У хуткім часе мае быць выданы цыркуляр Ураду ваяводам, старастам і па валасьцёх, які будзе выясьнены парадак упрашчэньня сьцьвярджаньня дзяржаўнае прыналежнасьці жыхароў усходніх земляў.

На пасаду валынскага ваяводы замест цяперашняга, гэнэрала броні Альшэўскага, назначаны староста пан Дэмбскі. Дэкрэт аб яго назначэньні прадстаўлены п. Прэзыдэнту Рэспублікі і падпісаны 4 гэтага лютага.

На паседжаньні Палітычнага Камітэту Рады Міністраў, паміж іншым, абгаваралі пытаньні, якія датычаць палажэньня праваслаўнае царквы ў Польшчы.

У Варшаўскім Акружным Судзе слухаецца справа Л. Масьлінскага, М. Красінскага і М. Ротэра, абвінавачаных у прыналежнасьці да тэрорыстычнае арганізацыі, дзеючае на карысьць С.С.Р.Р. Апрача таго Масьлінскі абвінавачваецца ў арганізацыі ўзрыву ў Варшаўскім Унівэрсытэце, бышага ў траўні месяцы 1923 году. Працэс гэты зьяўляецца працягам працэсу Багінскага і Вечаркевіча, з якімі абвінавачаньня былі ў заўсёднай лучнасьці. Дзеля таго, што па справе выклікана вельмі шмат сьведкаў, працэс мае цягнуцца ня менш як тыдзень. Уваход у салю суда па білетах.

### За граніцай.

Газэты паведамляюць з **Канстантынопалю**, што **Турцыя** выслала адказ **Грэцыі** на яе ноту аб высылцы патрыярха. У сваім адказе турэцкі ўрад трымаецца таго пагляду, што высылка гэта, ў кожным выпадку, не зьяўляецца нарушэньнем Лёзанскага трактату. Апрача гэтага, Турцыя адмаўляецца перадаць справу ў Гаагскі Міжнародны Трыбунал, чаго дамагалася ў сваёй ноце Грэцыя.

ПАТ передае з **Масквы**, што бальшавікамі выдана распараджэньне аб аднаўленьні аўторскага права. Выдаўцы газэт і журналаў карыстаюцца аўторскім правам 10 гадоў. Права ўласнасьці аўтора цягнецца 25-гадоў. Насьледнікі пасьля сьмерці аўтора карыстаюцца яго правам ня больш як 15 гадоў. Правы аўтора могуць быць выкуплены ў яго дзяржаваю прымусова.

**Амэрыканскі** парлямэнт прыняў законапроект аб скліканьні новае конфэрэнцыі па пытаньню аб разабраеньні.

У **Дабруджы (Румынія)** паліцыяй выкрыта бальшавіцкая арганізацыя, ў якую ўваходзілі **баўгарскія** камуністы. Арыштована 40 чал.

З **Токіо (Японія)** паведамляюць, што 3. II на паседжаньні парлямэнту адзін э паслоў сказаў прамову, якую спыніў маршалак. Ня гледзячы на пазбаўленьне яго слова, прамоўца гаварыў далей; тады маршалак патрэбаваў выдаліць яго. Калі прамоўца не зьвярнуў і на гэта ўвагі, дык іншыя паслы кінуліся на яго і зьбілі да непрытомнасьці.

З **Эгіпту** надыйшла вестка, што агульныя выбары праходзяць нагул спакойна, толькі ў Мэгаля-Кабіры натаўп напаў на вураднікаў і зьнішчыў паперы і сьпіскі.

**Прускае** тэлеграфнае агентства афіцыяльна паведамляе, што Браун 5. II перадаў прэзыдыуму прускага ляндтагу (сойму) пісьмо, ў якім заяўляе, што ён адмаўляецца быць старшынёю рады міністраў.

Як перадаюць з **Парыжу**, прэм'ер-міністар Эрыё меў 5 лютага нараду з ангельскім пасдом. Было закранута пытаньне аб даўгох, бясьпечнасьці **Францыі** і **грэцка-турэцкім** конфлікце.

З **Шанхаю (Кітай)** паведамляюць, што ваенныя камандзеры запрапанавалі пэкінскаму ўраду скасаваць фарты Ву-Сунг.

Паводлуг вестак з **Вены**, прадстаўніком **СССР у Японіі** мае быць назначаны Іофэ, цяперашні прадстаўнік радаў у **Аўстрыі**. Замест Іофэ ў Аўстрыю будзе назначаны Ляутэр.

„Роста" паведамляе, што Прэзыдыум ВЦИК'у разаслаў цыркуляр, якім катэгорычна забараняецца рабіць якія-нібудзь мобілізацыі настаўнікаў для працы, якая проста не датычыць іхніх абавязкаў.

---

**ГЭНРЫХ СЕНКЕВІЧ.**

# ЛЯТАРНІК.

*(Пераклад з польскага).*

*(Глядзі № 6 (60) „Грам. Голасу").*

Наплакаўшыся быў цяпер спакойны і радасны, а вочы яго былі натхненныя. Мапынальна аддаў усю сваю страву птушкам, якія кінуліся на яе з гоманам, а сам ізноў узяўся за кніжку. Сонца ўжо прайшло над агародамі і над тропічным лесам Панамы і памалу капілася за міжмор'е, да другога акіяну, але й Атлянтык быў яшчэ поўны бліску: было яшчэ зусім сьветла, дык чытаў далей:

Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну
Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пакосаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

I толькі зьмерк сьцёр літары з белай старонкі кніжкі: зьмерк, кароткі, як мірг вока. Стары абапёр галаву аб скалу і заплюшчыў вочы. А тады «Тая, што яснай сьцеражэ Чанстаховы», ўзяла яго душу і перанясла «да нівáў родных, калосьсем ярка маляваных». На небе гарэлі яшчэ даўгія чырвоныя і залатыя шляхі, а ён па гэтых шляхох ляцеў у дарагі край. Зашумелі яму у вушох сасновыя лясы, загульгаталі родныя рэкі. Бачыць усё, як было. Усё яго пытаецца: «памятаеш?». Ен памятае! а навет бачыць: шырокае поле, межы, сенажаці, лясы і вёскі. Ужо ноч! У гэтую пару заўсёды яго лятарня асьвятляла марскую цемру—але ён цяпер у роднай вёсцы. Старая галава апусьцілася на грудзі і сьніць. Абразы перасоўваюцца перад яго вачыма хутка і крыху ў бязладзьдзі. Ня бачыць роднай хаты, бо яе зьніштожыла вайна, ня бачыць бацькі, ані маці, бо яны памёрлі, як ён быў яшчэ дзіцянём; але бачыць вёску гэтак, быццам толькі ўчора яе пакінуў: рад хатаў са сьветам у вакопцах, дарога, млын, дзьве саджалкі побач і гудзеўшыя праз усенькую ночку жабячымі хорамі. Калісь у гэтай самай вёсцы стаяў праз усю ноч на пасту: здалёк карчма паглядае гарэўшымі вачыма і гамоне, і пяе, і гудзе сяродначной ціншні шэптам, гукамі скрыпкі і басоў. «У-га! У-га!» Гэта уланы выбіваюць тахт падковамі сваіх ботаў, а яму гэтак сумна аднаму на каці! Часіны плывуць памалу, ляніва, урэшце сьвятло пагасла: цяпер, куды ні глянеш вокам, імгла ды імгла без канца: відаць пара падымаецца з сенажацяў і ахінае ўвесь сьвет белым туманом. Зусім, як акіян. Але гэта сенажаці: хутка птушкі зашчабечуць і жукі загудуць над балотам. Ноч спакойная і сьцюдзёная, ўсапраўды польская ноч! Удалёчку сасновы бор шуміць бяз ветру... як марская хваля. Хутка золак заясьнее на ўсходзе: ўжо й куры запяялі на запплоцьці. Адна адной падаюць галасы з хаты ў хату: хутка ўжо і журавлі закрычаць з вышыні неба. Улану нейк добра, здарова. Нешта там казалі аб заўтрашняй бітве. Гэй! дык і пайдзе, як пайдуць і іншыя, з крыкам і шумам сьцягоў. Маладая кроў грае і кіпіць хаця дых ночы ахалоджвае яе. Але ўжо сьвітае, сьвітае! Ноч бляднее: з цемры ад'знячаюцца лясы, зараслі, рад хатаў, млын, топалі. Студні скрыпяць. Як гэта дарагая, харошая ў рожавым сьвеце ўвасходу сонца! Ох, дарагая, адзіная!

Ціха! Асьцярожны улан чуе, што нехта прыбліжаецца. Мабыць зьмяняюць пасты.

Раптам нейкі голас кліча Скавінскага:

— Гэй, стары! ўставайце! Што з вамі?

Стары расплюшчае вочы і з дзівам глядзіць на чалавека, які стаіць над ім. Астаткі соннай зьявы і зданьняў змагаюцца ў яго галаве з запраўднасьцю. Урэшце зданьні бляднеюць і нікнуць. Перад ім стаіць Джонс, партовы стражнік.

— Што гэта? — пытаецца Джонс, — вы хворы?

— Не.

— Вы не запалілі лятарні. Прагоняць вас са службы. Чайка з Сан-Жэромо разьбілася аб мель, шчасьце, што ніхто не затануў, а то-б вы пайшлі пад суд. Сядайце са мной, больш скажуць вам у консуляце.

Стары зьбялеў: узапраўды ў гэту ноч ён не запаліў лятарні.

Колькі дзён пасьля гэтага бачылі Скавінскага на палубе параходу, плыўшага з Аспайнвэль у Нью-Ёрк. Бедны страціў пасаду. Адчыняліся перад ім новыя шляхі бадзяньня; вецер ізноў схапіў гэты ліст, каб кідаць яго па сушы і па моры, каб зьдзекавацца над ім колькі захоча. Дык няма дзіва, што стары праз гэтых колькі дзён надта апусьціўся і згорбіўся, і толькі вочы ў яго бліщчэлі. А новую жыцьцёвую дарогу меў на грудзёх — сваю кніжку, якую час ад часу прыціскаў да грудзей, быццам баючыся, каб і яна не загінула.

Пералажыў **Ю. М.**

КАНЕЦ.

## Супольнасьць мэтаў і лёсаў беларускага і украінскага народаў.

Калі Польская Дзяржава, дзякуючы няўдалай унутранай палітыцы сваіх Урадаў, стала перад небясьпекай утраты г. зв. Усходніх Крэсаў, і зьявілася безадкладная патрэба гэтае палажэньне направіць, дык тыя, што ўзяліся за гэтае цяжкае заданьне, адразу спаткаліся з неабходнасьцю перш за ўсё знайсьці магчымасьць супольнага жыцьця беларусаў і украінцаў, як народаў жывучых на гэтых Крэсах, з палякамі. І калі да гэтага часу панаваў яшчэ мыльны пагляд у Польскім грамадзянстве аб тым, што беларускае і украінскае пытаньне зьяўляецца толькі часткай агульнага пытаньня нацыянальных меншасьцяў, і што ўсе часткі гэтага пытаньня можна вырашыць адразу супольна для ўсіх паасобных меншасьцяў, па аднаму трафарэту, сёньня ў зьвязку са справай „Крэсаў“ думка гэтая зьмянілася ў той бок, што беларускае і украінскае пытаньні прызнаны за сходныя паміж сабой, але розныя ад іншых нацыянальных меншасьцяў, (як жыды і немцы) ў самай сваёй сутнасьці. І не выпадкова Польскі Сойм, прымаючы языковыя законы для беларусаў і украінцаў, не прадбачвае немцаў і жыдоў, бо паскольку жаданьні і патрэбы беларусаў і украінцаў маюць характар барацьбы пераважна за сваю нацыянальнасьць, немцы і жыды, нацыянальна больш сьвядомыя, маюць заданьні больш эканамічнага характару. Памыліцца той, хто падумае, што гэтае зьявішча супольнасьці мэтаў беларускага і украінскага грамадзянства выпадкова выклікана лучнасьцю іх з справай „Усходніх Крэсаў“. *Супольнасьць мэтаў выклікана перад усім супольнасьцю лёсаў беларускага і украінскага народаў.*

Яе відаць на працягу ўсяе гісторыі і шмат было ня толькі паасобных момэнтаў, але цэлых эраў, калі беларусы і украінцы перажывалі разам і долю і нядолю. Асабліва-ж ярка выступае гэта ў багатым катаклізмамі XX веку. Спачатку барацьба з русыфікацыяй і царызмам, далей вайна заліўшая крывёй і спаліўшая агнём беларускія і украінскія хаты і нівы, расейская рэвалюцыя і расквет адраджэнскага руху, нямецкая окупацыя, бальшавіцкая рэвалюцыя і барацьба за незалежнасьць, адзіны нацыянальны фронт проці бальшавізму, польска-бальшавіцкая вайна і ўрэшце Рыскі трактат, падзяліўшы Беларусь і Украіну ня толькі тэрытарыяльна, але зрабіўшы дыфэрэнцыяцыю і ў поглядах грамадзянства.

Частка Беларусі і Украіны апынулася ў межах Польскай Дзяржавы. І ў гэты апошні пэрыяд балей чым калі-небудзь яскрава выступае супольнасьць лёсаў беларускага і украінскага народаў.

Не патрапіўшы яшчэ загаіць ранаў, нанесеных вайной фізычнай, беларусы і украінцы змушаны былі ўступіць ў новую барацьбу, барацьбу духоўную з нацыяналізмам польскім. Польская дэмакратыя, сама яшчэ знаходзілася пад страшэнным уплывам з боку правай часьці свайго грамадзянства і аб нейкім супрацоўніцтвэ з ёю, пакуль што, не магло быць мовы. Падыйшлі выбары ў Сойм і Сэнтат і беларусы супольна з украінцамі утварылі супольны фронт нацыянальных меншасьцяў, пад лёзунгам аўтаноміі беларускіх і украінскіх зямель. Блёк даў ненайгоршыя вынікі, бо ў Сойм і Сэнат была праведзена не малая часьць беларускіх і украінскіх дэпутатаў. Новы Сойм сабраўся і беларускі і украінскі народы абдарылі сваіх паслоў і сэнатараў максімумам даверыя і, даўшы ім karte blanche, чакалі рэзультатаў іх працы. Чакалі доўга і цярпліва, аж пераканаліся, што дарэмна чакаюць.

Бо, замест таго, каб шукаць паразуменьня з польскай дэмакратыяй і, пры яе помачы, рэалізаваць нацыянальныя імкненьні, беларускія і украінскія паслы сталі на грунт барацьбы з польскай дзяржаўнасьцю на беларускіх і украінскіх землях. Зусім зразумела, што гэтакая пазыцыя пашых паслоў зусім выключыла магчымасьць паразуменьня іх з паступовай польскай дэмакратыяй. Некаторыя паслы з украінскага клюбу перайшлі навет у камуністычную фракцыю і няма ведама, ці гэтага самага ня зробяць некаторыя паслы з Беларускага Клюбу.

Зусім зразумела, што гэткая пазыцыя не магла прайсьці без адпору з боку грамадзянства і рэакцыя і варожы настрой у масах проціў палітыкі дэпутатаў ня змусіў доўга на сябе чакаць.

У беларусаў—зрывае з Пасольскім Клюбам — Беларускае Грамадзянскае Сабраньне, паўстае Часовая Беларуская Рада, ў украінцаў паўстае Украінская Народная Партыя на чале з вядомым грамадзкім дзеячом д-рам Ўладымерам Оскілко. Усе гэтыя арганізацыі, адносячыся крытычна да палітыкі Укр. і Бел. Пасольскіх Клюбаў, становяцца на чале нацыянальнага руху, боручыся рашуча за нацыянальныя правы беларускага і украінскага народаў, гарантованыя польскай констытуцыяй.

Супольнасьць лёсаў прывяла два братнія народы да супольнасьці мэтаў. Супольнасьць мэтаў прывядзе раней ці пазьней да яшчэ большага духоўнага аб'яднаньня абедзьвюх старон і да паглыбленьня тых шчырых і прыязных адносін, якія былі на працягу ўсяе гісторыі. На ўсім працяту гэтых адносін цёмных плямаў ня было і наша глыбокае перакананьне — ня будзе. І з вялікай прыемнасьцю глядзім мы і бачым, як братні украінскі народ йдзе шляхам здаровага нацыяналізму, адкідаючы пакрысе ўсходнюю дэмагогію рэпрэзантованую пасольскім клюбам.

**В. Шышкоў.**

## Агляд прэсы.

„Robotnik“ друкуе артыкул пасла С. Воліцкага ў справе самаўраду ў нашым краі. Воліцкі піша:

Аднэй з найважнейшых балячак усходніх ваяводзтваў, якую трэба як-га спыніць,—гэта тое, што няма самаўраду. Прысланыя войты і сэкрэтары гэтак запаскудзілі адносіны ў валасьцёх і мястэчках, што ўзапраўды валасныя ўправы зрабіліся установамі, якія няма ведама, як назваць, якія маюць на мэце зьдзекавацца над кожным, хто не паляк ды яшчэ небагаты. І дзіўна, што Урад думае, што трэба перад увядзеньнем у жыцьцё законаў аб самаўрадзе, разрашыць гэтае пытаньне, хаця-бы на калене зробленымі артыкуламі, ўсюды ў Польшчы апрача крэсаў! І чаму-ж гэта крэсы, якія цяпер зьяўляюцца самым важным і неадкладным заданьнем дзяржаўнай палітыкі, пазбаўлены самаўраду? Трудна думаць, каб Урад хацеў далей утрымаць на крэсах цяперашняе палажэньне. Тут, мабыць, ёсьць нейкае недаразуменьне, або, што горай, ня гледзячы на гэтулькі балючых дасьведчаньняў, абсолютнае нязнаньне мясцовых адносін. Мог-бы нехта сказаць: „але-ж і ў Малапольшчы ў самаўрадах сядзяць галоўным чынам накінутыя камісары“. Дык усюцы з гэтага боку дрэнна, але найгорай на крэсах. На крэсах, дзякуючы тэрыторыяльнай разьлегласьці і рэдкаму насяленьню, ніхто не кантралюе камісараў. Людзі, накінутыя на пасады войтаў і бурмістраў ува ўсходніх ваяводзтвах, часта зьяўляюцца звычайнымі ашуканцамі, зладзеямі, а часта вельмі падазронна выглядаюць і з палітычнага боку.

З гутаркі, якую я вёў з п. Міністрам унутраных справаў, я даведаўся, што Урад ня думае, пакульшто, перамяняць гэтых адносін.

Гэткае становішча трэба бязумоўна прызнаць няправільным.

Пан Міністар унутраных справаў клапаціўся аб цяжкім матар'яльным палажэньні жыхароў крэсаў, казаў, што насяленьне ня вытрымае цяжараў самаўраду. Звычайная вывертка! Дык-жа насяленьне мае на сабе гэтыя цяжары, толькі з тэй розьніцай, што цяпер падатак на самаўрад зьбіраюць несправядліва, бо накінутыя людзі ня ведаюць адносін; тады, аднак, як будуць праведзены выбары, гэтыя падаткі зьбіралі-б людзі, выбраныя насяленьнем...

Няма законаў? Загады аб самаўпраўленьні б. генэральнага камісара ўсходніх земляў маглі-б быць пунктам выхаду з гэтага хаосу. Яны-б далі патрэбную палітычную гарантыю для Дзяржавы, а насяленьне лягчэй-бы ўздыхнула. Дзіва, што ўрадоўцы ўсходніх ваяводзтваў пасьля рэвізыяў у валасьцёх пішуць рапарты аб неадкладнай патрэбе правядзеньня выбараў у самаўрацы, але Міністэрства Унутраных Справаў кажа: не.

П. Ратайскі й далей ня мае паняцьця аб патрэбах усходніх крэсаў, а віцэ-міністар п. Смульскі думае, што крэсамі трэба упраўляць паэндэцку. Дык няма ніякае палёгкі.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Лячэньне цераз радыятэлеграф сярод адкрытага мора.

Капітан паштовага карабля „Angiers“, які вяртаючыся з Кітаю і Японіі спыніўся ў Марсэлі (Францыя), расказаў журналістым пра аргінальнае здарэньне. У той час, як „Angiers“ быў паміж Колёмбо і Гібуті сярод Індыйскага акіяну, адтрымана была радыяграма, што на караблі „Kapitan Faure“, які ехаў у Кітай, цяжка захварэў марскі афіцэр. На гэтым караблі ня было ніводнага доктара. Дык у працягу некалькіх дзён доктар з карабля „Angiers“ лячыў цяжка хворага афіцэра, быўшага на другім далёкім караблі, пасылаючы яму радыятэлеграфам лякарскія правілы. Праз тыдзень лячэньне па радыятэлеграфу скончылася, а хворы афіцэр паздаравеў.

## Маленькі фэльетон.

### Справаздача паслоў або сон выбаршчыка.

(Фантазія).

*Гл. № 5 „Грам. Гол.“.*

А тымчасам, ад таго момэнту, калі Старшыня затрымаўся і быццам, задумаўся, прайшло нябольш аднае сэкунды, а можа навет і менш гэтага, і ўсе тыя думкі, праляцеўшыя праз салю, і тое затрыманьне Старшыні — можа іх і зусім ня было, а была толькі адна фантазія самога аўтора, але... факт застаўся фактам, — што ў той мамэнт, калі Старшыня падняўся і хацеў пачаць прамову, — фігура нібыто з „Варшаўскага Камітэту для Беларускіх Спраў“ сваім чханьнем і пасьля зьявіўшыяся „дзергачоўцы“ нарушылі і цішу і парадак у салі... і толькі адно засталося нявыясьненым, што навет і тады ўжо кінулася ўсім у вочы, гэта тое, што калі „фігура“ паказала нейкую паперку „дзергачоўцам“, то яны, і ня чытаючы навет гэнае паперы, а толькі, зірнуўшы на яе пячатку — неяк адразуператварыліся і ўжо, як тыя „архангелы“ сталі па бакох „фігуры“, гатовыя, як здавалася, хоць зараз-жа, па яе прыказу, кінуцца на кожнага, хто пазволіць сабе штоколечы супраці іхняга цяперашняга, быццам, адзінага фронту...

А фігура ўсё чхала і протэставала і, падбодраная „дзергачоўцамі“, ўсё галасьней і галасьней патрабавала „слова“.

Рабіўся нейкі непарадак, і саля пачынала гудзець...

З лёжы Пасольскага Клюбу паляцеў прыказ: „высьвятліць... запратаkаліраваць... і ў справу па „інтэрпэляцыі“.

З „левага“ боку салі нясьліся галасы: „няхай гаворыць... можа ён протэстуе правільна... Трэба даць яму „слова“...

З „правага“ боку: „а ну яго... няхай едзе назад... у Варшаву... Навет „апошні з аляксюкоўцаў“ і той неяк безнадзейна махнуў рукой і памутнелымі, быццам, ўжо ад'жыўшымі вачыма паглядзеў жаласна на фігуру, і толькі „актывісты“ нешта меркаваў і задумаўся... Навет падняўся з месца..., але пасьля ізноў усеўся... „што гэта за паперку паказаў ён „дзергачоўцам“,—мучыла яго думка і... рaптам падняўся і... ўжо рашучымі шагамі скіраваўся да фігуры...

І шум на салі не пераставаў, пакуль званок Старшыні не паклікаў да парадку. „Паважаныя Паны“—пачаў Старшыня—„дзеля таго, што я яшчэ і не пасьпеў адчыніць „справаздачы“, а ўжо нейкі там ікс,—і ён пагардліва ткнуў пальцам у куток дзе ўмясьцілася побач з „дзергачоўцамі“ і „актывістым“ ужо прыціхшая „фігура“,—пачаў рабіць нейкую, быццам, дэмонстрацыю... Паважаныя паны!.. я з задавальненьнем мушу ад'значыць, што, як нас—і ён пакланіўся леваму боку салі і лёжам паслоў ды сэнатараў, — так навет і тых— і ён у першы раз зірнуў, на правы бок — гэтая, быццам, дэмонстрацыя зусім не нэрвавала і не непакоіла... Усе аднясьліся да гэтага, як да нечага зусім ня сур'ёзнага і не заслужваўшага ніякае ўвагі і,—каб не нарушэньне „парадку дня“ і не жаданьне большасьці даведацца да чаго, ці да каго ён протэстуе і чаму ён так дабіваецца „слова“,—дык ня было-б зусім і ніякага інцыдэнту. і яны-б яго абайшлі зусім маўкліва... Вось дзеля гэтага, паважаныя паны—і ён ужо пакланіўся ўсёй салі, -я прашу вас цяпер-жа, якнайхутчэй стварыць мяшаную камісію і высьветліць: па першаму—чаго гэты ікс протэстуе, па другому—ці даць яму „слова“ цяпер, пакуль яшчэ „справаздача“ не адчынена, ці пасьля“—і ён, празваніўшы ў званок, абвясьціў перарыў.

У склад зьмешанае камісіі ўвайшлі: ад Пасольскага Клюбу паслы Ярмеіч і Міхась, ад выбаршчыкаў нейкая лахматая, досіць апушчаная фігура — ахвяра і страстацерпец руху беларускага— былы Председатель Камісіі па ліквідацыі безграматнасьці, дый драматург Монвід, ад „адкалоўшыхся“—заступнік Прэзэса Грамад. Сабраньня, Віцэ - Прэзэс Віленскага Беларускага Клюбу, прадстаўнік ад Часовае Рады — палк. Лапата-Захаржэўскі і п. Акулярнік—прадстаўнік ад Рэдакцыі „Грамадзкага Голасу“.

— Ну, і Камісія — неасьцярожна падумаў Старшыня азірнуўшыся на ўсе бакі—адны „мачыморды“... ня дай Бог, калі забяруцца ў буфэт, дык ня толькі справа з „фігурай“, а навет і ўся „справаздача“ можа праваліцца...

А саля гудзела... Ня менш гудзел і хоры, дзе на месцах для публікі разьмясьціліся жанкі паслоў і іншых дзеячоў... і ў іх цікавіліся „справаздачай“ і ў іх падзяліліся на два лягэры— адны, як жанкі паслоў, для якіх праца Пасольскага Клюбу давала нешта і зусім рэальнае для хаты, — цікавіліся „справаздачай“, як нечым ад чаго залежала і гэта „рэальнае“, і іншыя прышлі проста паглядзець, дый пагутарыць... але як гэтыя, дык і тыя, па сваёй жаноцкай слабасьці, здаецца, больш часалі свае язычкі пры нешта зусім іншае, ніж пра „справаздачу“ і толькі з усіх кутоў хораў даносілася „шу-шу-шу ды шу-шу-шу“..

**Г-ка.**

(*Далей будзе*).

